I ГЭТА ТАК!

# Гомельскія НАВІНКІ

Жоўтая газетка на роднай мове Жнівень-2 2015

Першае 100% цалкам беларускамоўнае выданне Гомельскага рэгіёну

## "Гомельскія Навінкі" – інфармацыйны партнёр Metal Crowd - 2015




**Metal Crowd Дзень першы**

стар. 2

**Дзень другі**

стар. 6

**Алгарытм: як беларускія чыноўнікі становяцца мільянерамі**

стар. 4

**У Гомелі судзяць бацькоў, якія пакінулі трохмесячную дачку паміраць у замкнёнай кватэры**

стар. 8

# Metal Crowd 2015. Дзень першы

***Прыехалі гэтай ноччу з адзінаццатага рэчыцкага Metal Crowd, і цяпер самы час успомніць, што і як адбывалася ў гэтыя дні. Ігар і Паліна трошкі пагутарылі на гэты конт.***

*Ігар:*

Для мяне сёлетні фэст быў ужо чацьвёртым, таму параўноўваць ёсьць з чым. Менавіта ў гэты раз я атрымаў ад мерапрыемства сапраўдны непадробны кайф. Усё прайшло на выдатна: ад выступаў гуртоў да нашай вандроўкі і непасрэдна тусовачнай часткі. Да арганізацыі – амаль без пытаньняў. Здолелі зрабіць продаж піва і кактэйляў, няхай і можна было іх піць толькі ў спецыяльна адведзеных месцах. Ежа, мерч, гук на сцэне – таксама залік. Не спадабаўся падыход да сцэны, які быў зроблены такім чынам, што шлях займаў 5 хвілін, замест адной, калі б не было агароджы. Ну й біяпрыбіральняў у гэты год чамусьці было толькі чатыры на ўвесь фэст. Як табе мерапрыемства?

*Паліна:*

Гэта быў мой другі Крауд (першы раз наведалася ў Рэчыцу ў 2012 годзе), і я таксама адчула станоўчую дынаміку, але не абышлося бяз лыжак дзёгцю. Рабіць намётавае мястэчка на тэрыторыі фэста і забараняць прыносіць туды ежу з алкаголем, распальваць мангалы — ня трэба так. Магчыма, калі б не прыйшлося вынаходзіць спосаб, як засмажыць мяса, падняць тонус і зьліцца ў гармоніі з прыродай, не прыцягваючы залішней увагі з боку доблесных службаў, змаглі б пабачыць больш выступаў, як лічыш?

*Ігар:*

Так, цалкам згодны. Цуд насамрэч, што ў нас усё атрымалася з начлегам. Ночыць у машынах у межах гораду і там жа гатаваць ежу – такое атрымаецца толькі ў тых, хто мае хітры план. Як мы, напрыклад :) Такім чынам, дабраліся да фэставай пляцоўкі, лічы, толькі тады, калі пачалі граць першыя хэды. У інтэрнэтах шмат у каго падгарала ад таго, што ў гэтым годзе да складу далучыліся "нефарматныя" Trubetskoy і Дай Дарогу! Прычым




бурліла настолькі моцна, што складвалася ўражаньне аб аншлагавай наведвальнасьці фэсту. Маўляў, як так, шматпакутныя вочыкі павінныя бачыць невядома каго. Усё канчаткова ператварылася ў цырк у той момант, калі нават чалавек зь Сібіры (!), невядома як апынуўшыся ў суполцы беларускага фестывалю, таксама прымудрыўся выказаць сваё нікому не патрэбнае меркаваньне. А ў выніку мы ўбачылі рэдзенька запоўнены танцпляц на металёвых бандах, якія гралі да Трубяцкіх, і шалёны слэм са слупамі пылу і масавае хаератрасеньне пад "Ты кинула". Нармальна?

*Паліна:*

Не магу спрачацца, сама ж ледзь ня больш за ўсіх адрывалася пад Trubetskoy. Нічога ня маю супраць «Трубяцкіх» і «Дай Дарогу!» і іх удзелу ў фэсьце, але гэта ўсё ж мяняе фармат мерапрыемства: азначэньне «метал-фестываль» становіцца надта вузкім. Можа, варта падумаць пра зьмену назвы? Скажам, Crowd Rock ці Crowd Fest. Ёсьць і яшчэ адно далікатнае пытаньне. Звычайна беларускія гурты выступаюць на Metal Crowd бясплатна. Цікава, ці распаўсюджвалася гэтае правіла на Trubetskoy і "Дай Дарогу!"? У любым выпадку, я за тое, каб мысьліць маштабна і не абмяжоўвацца жорсткімі фарматамі. Галоўнае – якасная музыка.

А вось удзел віцебскіх хлопцаў Forodwaith, здаецца, ні ў кога ня выклікаў нараканьняў. Як заўжды, бадзёра, драйвова прайшліся па сваім "Nirnaeth Arnediad". Зацаніў?

*Ігар:*

Ай, да хай сабе які заўгодна будзе Крауд. Галоўнае, каб гэта быў менавіта крауд, менавіта натоўп, а зараз жа тэндэнцыя ідзе ў такі бок, што на вока з кожным годам людзей усё менш і менш. Ды й калі вяртацца да металічнага фармату, то чаму «Тролль гнёт ель» ніякіх пытаньняў ня выклікалі? Таксама музыка далёкая ад цяжкай, але ж фолк пасуе больш, чым панк ці ўгарны рок.

Галоўнае, каб метал быў пераважным стылем. Ня думаю, што падобная практыка ўдзелу гуртоў кшталту Трубяцкіх і ДД будзе працягвацца, але чаму б і не. Наўрад ці нам скажуць праўду пра фінансавы бок фэсту, толькі мяркую, што беларускі гурт беларускаму гурт — розьніца. Што да Forodwaith, то тут як заўсёды файна, якасна і па-забіяцку весела. Але хутка ўжо надыйдзе момант, калі "як заўсёды" надакучыць, і людзі спытаюць за новы матэрыял. Гурту б не зацягваць зь ім, і пасьля праслухоўваньня сінглу "Ostara" разумееш, што хлопцам ёсьць, што сказаць сваім слухачам. Пасьля нашых віцебскіх землякоў мы накіраваліся больш падрабязна ацаніць, што, дзе і як уладкавана на фэсьце. Як табе тусач вакол?)

*Паліна:*

Ага, сапраўды, часам метал быў, а "крауду" пад сцэнай не назіралася. Вось каму ніяк не адмовіш у недахопу ўвагі, гэта кропкам зь ежай і "бадзёрымі" напоямі. Пад парасончыкамі ўзьядноўваліся старыя сябры, заводзіліся новыя, і ня дзіва, што многія нават не даходзілі да канцэрту, бо Крауд заўсёды славіўся атмасферай. Не абышлося без каларытных персанажаў і на гэты раз. Чаго варты толькі падкачаны спадар з бліскучай лысінай і ня менш каларытнымі дзьвюма рудымі спадарожніцамі, якія паўсюль хадзілі разам. Аднак паміж агульным тусачом я ўсё ж змагла трапіць і на выступ славацкіх інструментальшчыкаў Abstract. Шчыра прызнаюся, назва гурта цалкам адпавядала маім уражаньням ад іхняй музыкі – нічога канкрэтнага сказаць не магу. Хоць гурт выконвае толькі інструментальную музыку, адзін з гітарыстаў, які ўзяў на сябе ролю франтмэна, ледзь не засьпяваў, – настолькі выразнай падавалася ягоная міміка і рухі. Я падумала, што, можа, ня варта сябе стрымліваць. Бач, атрымалася б больш яскрава. А чым займаўся ты?

*Ігар:*

А я сустрэў мясцовых сяброў, якіх ня бачыў год, і застаўся ў піўным намёціку :) Піва лілося ракой, і цікавыя гісторыі йшлі адна за адной. Мяняліся людзі, мяняліся твары, хлопцы спаборнічалі, хто больш дужы на руках, а нехта ўвогуле мірна драмаў за столікам. Зона, дазволеная для ўжываньня, увогуле была вострàвам бясьпекі, дзе, нягледзячы на агульны стан наведвальнікаў, нікога не чапалі. Напэўна, лепш загнаць усіх у адно месца, чым потым лавіць па навакольлі па-за агароджай зомбі-робатаў, якія гойсаюцца туды-сюды. Чаго ня сказаш пра тэрыторыю ля сцэны, дзе людзі за свае касякі прымудрыліся і папрысядаць, і паадціскацца. У астатнім нармалёва. Прыйшоў пад сцэну перад пачаткам галоўнага фестывальнага цвіка, немцаў Die Apokalyptischen Reiter. Адзін з самых улюбёных гуртоў, шчырыя ў сваіх эмоцыях як падчас выступу, так і ў нефармальнай абстаноўцы. Бачыў іх у далёкім 2008 годзе ў Кіеве, і шасьцігадоваму флэшбэку быў самы час адбыцца.

*Паліна:*

І як, вярнуў свой 2008?

Ігар:

Вярнуў – ня тое слова! Хацелася адтапырвацца, скакаць, крычаць ды катацца па зямлі) Усё, разам і паболей. Асабліва пад тыя кампазіцыі, за якія і пачаў любіць гурт. Прыўнесьлі трохі карэктываў у свой стайл, і на першай песьне мы назіралі гэткага дыктатара, які прамаўляў у скураным плашчы і кепцы. Але нязьменныя шаравары нікуды ня дзеліся, і ўжо з другой песьні «Fuchs» вакаліст лётаў у іх. Фішка выцягваць людзей на сцэну таксама не абмінула Беларусь, і пад «Seemann» разам з музыкамі на сцэне танчыла беларуская sailor-girl. У канцы «Fuchs» пасадзіў яе на шыю, і пракатаў частку песьні на сабе. У Кіеве ён яшчэ і палка пацалаваў дзяўчыну, але мне здаецца, што гэта ўсё ж занадта. Вось у такой сяброўскай атмасферы і праходзіў выступ. Увогуле, у пэўны момант схапіў сябе на думцы, што вось яны, самыя цікавыя і прыемныя супярэчнасьці. Людзей мала, але яны ўбачылі шчыры і самабытны канцэртны гурт; у Менску некалькі разоў спрабавалі зрабіць канцэрт "Райтэраў", але давезьлі іх менавіта да Рэчыцы; вакол нібы і шмат аховы, але яны назіраюць за канцэртам з такімі ж ўсьмешкамі, як і ты сам. Вось такія моманты вартыя таго, каб праехаць тры сотні кіламетраў, патраціць грошы і выходныя, але пра якое шкадаваньне пасьля казаць? Мы бачылі Die Apokalyptischen Reiter. І кропка.

*Паліна:*

Цалкам падзяляю тваё захапленьне. Для мяне Die Apokalyptischen Reiter – гурт школьнага юнацтва, і я спаўна ацаніла магчымасьць пабачыць іх жыўцом. Назіраць выступ прафесіяналаў сваёй справы – сапраўдны кайф. "Вершнікі апакаліпсісу" дзейнічалі як адзін зладжаны механізм, выдаваючы ўлюбёныя рэчы. Але напрыканцы нешта ў механізме разладзілася: гурт пазбавіў нас асалоды пачуць тытуляваныя "Riders of the Storm" ды "We Will Never Die", перадумаў фатаграфавацца з публікай і аператыўна сышоў у заход. Што ж, шчасьце доўжыцца секунды, а успаміны пра візіт Die Apokalyptischen Reiter мы захаваем надоўга. Вось цяпер кропка.

*Ігар Богуш & Паліна Трохаўцава, belmetal.org*

# Алгарытм: як беларускія чыноўнікі становяцца мільянерамі

***На прыкладзе міністра энергетыкі Уладзіміра Патупчыка.***

«Народ павінен ведаць, як жывуць чыноўнікі і іх сваякі, адкуль грошы і ўласнасць у гэтых людзей», — заявіў Аляксандр Лукашэнка. Аднак, насуперак меркаванню кіраўніка краіны, беларускія чыноўнікі не хочуць публікаваць свае дэкларацыі аб прыбытках. Генеральны пракурор Аляксандр Канюк тлумачыць, што «гэта не зусім этычна».

Зрэшты, формула дабрабыту ў высокіх чыноўнікаў падобная. Яшчэ за савецкімі часамі ці на пачатку незалежнасці яны атрымалі першую кватэру. Пасля замянілі яе на больш прэстыжную і прасторную. І нарэшце пабудавалі катэдж у Драздах ці каля іх.







written by kosskronos & drawn by accordingtodevin

Як працуе гэтая схема? Адсочым на канкрэтным прыкладзе.

Уладзімір Патупчык — адзін з двух дзясяткаў беларускіх міністраў. Ягонае імя згадваецца рэдка, Патупчык адказвае за энергетыку. Гэтае ведамства было на слыху падчас «навагодніх войнаў» з Расіяй, калі ў апошні момант вызначаліся цэны на энерганосьбіты. Цяпер на рынку зацішша, і міністэрства працуе ў нябачным рэжыме.

*Этап назапашвання капіталу*

Уладзімір Патупчык нарадзіўся ў 1958-м у Светлагорску. Пасля заканчэння Беларускага політэхнічнага інстытута (цяпер БНТУ) адпрацаваў год у Мазыры, а пасля вярнуўся ў родны Светлагорск. З энергетыкай ён быў звязаны толькі чатыры гады, максімальна ўзняўшыся да пасады загадчыка лабараторыі на ТЭЦ.

А пасля пайшоў па партыйнай і чыноўніцкай лініі. На многіх пасадах Патупчык працаваў тандэмам з Аляксандрам Якабсонам. Быў віцэ-мэрам Светлагорска, які лічыўся «сталіцай наркаманаў», мэрам Мазыра падчас Дажынак, віцэ-губернатарам Гомельшчыны…

У Светлагорску Патупчык меў трохпакаёвую кватэру на вуліцы Пушкіна. Ягоны дом — старая брэжнеўка, пабудаваная яшчэ ў 1970-я.

Пасля пераезду ў Гомель чыноўнік перапісаў жыллё на дачку Ульяну. З улікам цяперашніх цэн на нерухомасць у Светлагорску кватэра Патупчыкаў каштуе каля $35 тысяч.

*Выгадная прыватызацыя*

У 2004 годзе Патупчыка перавялі ў Мінск. Спачатку ён стаў памочнікам Лукашэнкі (інспектарам па сталіцы), а праз два гады — міністрам працы і сацыяльнай абароны. Менавіта пад ягоным кіраўніцтвам была адмененая большасць ільготаў.

У адпаведнасці з указам «Аб стварэнні спецыяльнага службовага жыллёвага фонду» ніводная з гэтых пасадаў Патупчыка не прадугледжвае вылучэнне службовага жылля. Атрымліваеш немалы заробак — можаш здымаць кватэру ці адкладаць на яе куплю.

Аднак Патупчык нейкім чынам атрымаў кватэру ў доме на вуліцы Беларускай, на беразе Свіслачы.

Першыя жыхары гэтага дома засяліліся ў 2005 годзе. Ім выдаваліся даведкі «аб размеркаванні ізаляваных памяшканняў». Гэта тыповая схема для долевага будаўніцтва. Але

ў Патупчыка такой даведкі няма.

Ён прыватызаваў сваю кватэру ў канцы 2007 года, атрымаўшы дазвол першаснага ўласніка — Галоўнага гаспадарчага ўпраўлення Кіраўніцтва спраў прэзідэнта.

Прыватызацыя — гэта набыццё грамадзянамі дзяржаўнага жылля. Колькі давялося заплаціць міністру працы? Трохпакаёўку плошчай больш за 90 м2 ацанілі ў 145 мільёнаў рублёў. Па тагачасным курсе гэта было каля $67 тысяч. Такім чынам, квадратны метр каштаваў каля $746.

Ці не замала гэта? У 2007—2008 гадах у Беларусі назіраўся будаўнічы бум, жыллё ў Мінску падскочыла аж да $2000 за метр. А такая кватэра, як на Беларускай, мусіла каштаваць яшчэ больш за кошт прэстыжнага месца. Выглядае, што міністр атрымаў вялікую зніжку.

Патупчык дагэтуль не мае права цалкам распараджацца кватэрай. Значыцца, плацеж за прыватызацыю не быў аднаразовым, дамова афармлялася ў растэрміноўку. З кожным днём дэвальвацыя «з'ядае» выплаты. Курс даляра з даты пачатку прыватызацыі вырас больш чым у 7 разоў.

У выпісцы Нацыянальнага кадастравага агенцтва няма інфармацыі, на які тэрмін была аформленая ягоная іпатэка. Аднак ёсць пазнака, што спачатку дакументы склалі з памылкамі ў законе «Аб прыватызацыі» і двух артыкулах Грамадзянскага кодэкса.

Па цяперашніх рынкавых цэнах кватэра Патупчыка каштуе каля $180 тысяч.

*Сціплы, але дарагі катэдж*

Кар'ера Патупчыка тым часам працягвала ісці ўгару. У 2009 годзе ён стаў віцэ-прэм'ерам па сацыяльных пытаннях. Праўда, ужо на наступны год яго звольнілі з урада, а ў 2011 годзе знайшлі сінекуру — пасаду віцэ-спікера ў савеце рэспублікі.

А ў маі 2012 года Мінгарвыканкам выдзеліў Патупчыку зямлю для будаўніцтва катэджа ў водаахоўнай зоне за «Мінск-Арэнай». Цяпер ягоная вуліца Мястраўская ўваходзіць у склад раёна Ржавец (былая назва Лебядзіны).

Патупчык аказаўся суседам групы банкіраў на чале з Пятром Пракаповічам і Паўлам Калаўрам. Найімаверней, побач будаваўся і беглы кіргізскі прэзідэнт Курманбек Бакіеў.

На ўчастку Патупчыка паўстаў невялікі каменны двухпавярховік з лазняй. Праўда, панарама з вокнаў за час будаўніцтва істотна змянілася. Адразу за плотам Патупчыка разгарнулася будоўля шматпавярховікаў, якія канчаткова закрыюць катэдж ад праспекта Пераможцаў. З балконаў кватэр на высокіх паверхах можна будзе назіраць за жыццём чыноўніка.

Афармляючы дакументы на дом, Патупчык запэўніў рэгістратара, што будаваў катэдж за ўласныя грошы, без прыцягвання льготнага крэдыту.

Кадастравы кошт тых 14 сотак зямлі, якая дасталася яму, складае $225 тысяч. Рынкавую цану рыэлтары могуць назваць толькі наўскідку. Яна крыху ніжэйшая, чым у Драздах, дзе пачынаюць лічыць ад $1 мільёна.

Падчас свайго будаўніцтва Патупчык перайшоў у ранг міністра энергетыкі. Апошні раз ён працаваў у энергетычный галіне трыццаць гадоў таму.

***

Уладзімір Патупчык нар. 1958 у Светлагорску. Скончыў Беларускі політэхнічны інстытут (1980) і Расійскую акадэмію дзяржаўнай службы пры прэзідэнце Расіі (2002).

У 1980—1984 працаваў на Мазырскай ЦЭЦ, Светлагорскай ЦЭЦ і на «Гомельэнерга», у 1984—1990 — у Светлагорскім гаркаме КПБ. У 1990—1998 — намеснік старшыні Светлагорскага савета народных дэпутатаў, намеснік мэра Светлагорска. У 1998—2001 — старшыня камітэта Гомельскага аблвыканкама, у 2001 — мэр Мазыра, у 2001—2004 — віцэ-губернатар Гомельшчыны. У 2004—2006 — памочнік прэзідэнта (інспектар па Мінску). У 2006—2009 — міністр працы і сацыяльнай абароны, у 2009—2010 — віцэ-прэм'ер. У 2011—2012 — віцэ-спікер савета рэспублікі. Ад 2013 — міністр энергетыкі.

*Ягор Марціновіч*

**Жыць трэба ня дзеля грошай, а дзеля разьвіцьця, духоўных каштоўнасьцяў. Грошы ж вам, насамрэч, не патрэбныя. Аддайце іх мне. Мне патрэбныя.**

# Metal Crowd 2015. Дзень другі

***На другі дзень мы з апошніх сіл стараліся сядзець у намётавых мястэчках і памоўчваць, але ня вытрымалі, вырашылі паглядзець, што ж адбываецца на фэсьце. Пра гэта і будзем весьці размову.***

*Ігар:*

Раніцу другога дню лёгкай назваць было цяжка: чатырохгадзінны сон, вандроўка на машыне, цэлы дзень пад пякельным сонцам ды начоўка ўтрох у машыне – усё гэта давала аб сабе ведаць, і растрэсьліся мы каля адзінаццатай раніцы. Да нашага сораму – гурты Meat Head (памножым сорам на два – бо чэрвеньскі канцэрт гурта быў супер) і Stand By былі прапушчаныя. Усе мы людзі, хай некаторыя так ужо і ня лічаць. Прыйшлі акурат да пачатку выступу менчукоў Nightside Glance.

*Паліна:*

Мяркуючы па размовах гасьцей фэсту, на Nightside Glance жадалі патрапіць многія, таму крыху дзіўным здаецца той факт, што сімфанічны блэк-метал паставілі на такі раньні час. Але насуперак нявыйгрышнаму раскладу, ранішняму пахмельлю наведвальнікаў і сьпякотнаму рэчыцкаму сонейку, NSG змаглі пагрузіць прысутных у змрочную атмасферу, прасякнутую электроннымі імпульсамі. Як заўжды, гурт дасканала падышоў і да свайго зьнешняга выгляду – фірмовы грым, касьцюмы, што выгодна вылучала іхні выступ. А табе спадабалася?

*Ігар:*

Так, было сапраўды крута. Але, калі б Nightside Glance гралі ў цёмны час, з адпаведным сьвятлом, выглядала б значна больш эфектна. Не пабаюся сказаць, што эфектней за некаторых заморскіх гасьцей. Vein Of Hate, якія гралі наступнымі, прэзентавалі свой дэбютны альбом Dualist. Прайшліся па гледачах моцным якасным дэзьнячком, і ўсё было б добра, калі б на танцпляцы было хоць крыху болей жывенька. Увогуле, невядома, куды падзеліся людзі ў другі дзень: сам ведаю некалькі чалавек, якія набылі квіткі на два дні, але бачна іх не было. Ці палова суботніх гледачоў прыйшла толькі на Райтэраў? Цяжка сказаць.

*Паліна:*

Дарэчы, пра заморскіх гасьцей… Залпам паглядзела выступ літоўскага мелодык-метал гурта Berserker і італійцаў Voltumna. Калі літоўскія суседзі толькі выходзілі на сцэну, вядоўца Васіліса Шыдлоўская адзначыла, маўляў, флейта, клавішы зараз таксама зробяць нам атмасферу. Але гэтага не атрымалася. Цалкам выступ атрымаўся неблагі, гжэчная вакалістка літаральна гіпнатызавала сваім голасам, аднак меладычны каляфолк са зьбітымі лозунгамі кшталту “В единстве наша сила” нічога новага ня выявіў. Што датычыцца гурта Voltumna, яны таксама замарочыліся на зьнешні выгляд – грым, капюшоны, атрыбутыка, бо, як кажуць, становішча абавязвае. А становішча блэк-дэт калектыва абавязвае ўдвая. Выступ гэтай каманды мяне зацікавіў, мяркую, вярнуся да праслухоўваньня іхняга матэрыялу. Дарэчы, Voltumna многім прыйшліся даспадобы, прыняць да ўвагі хоць бы той факт, што дыск італійцаў, падпісаны спецыяльна для вядоўцы Зьміцера Сачыўкі, вераломна сьцягнулі. Такія справы.

*Ігар:*

Спадабаліся і расейскія дэтметалісты Rainwill. Але калі браць менавіта дэтавы складнік, то ўсе аматары жанру з апантанасьцю чакалі менавіта баявую машыну зь Менску — Posthumous Blasphemer. Гурт патрапіў у абойму фесту замест палякаў Calm Hatchery. І толькі той, хто спаў за тэрыторыяй, скажа, што такія зьмены складу былі дарэмныя. Моцна, бескампраміста, як заўсёды якасна. У склад гурта часова вярнулася драм-машына (што з задаволеным выглядам увесь выступ каментавалі з натоўпу то адзін, то другі гледачы), і калі з аднаго боку сцэны бубны лічы што былі натуральныя, то з бэкстэйджу ствараўся эфект, нібы малаток настойліва ўганяе цьвікі ў галаву (а вы ведаеце, якаі партыі ўдарных у Posthumous Blasphemer). Асабліва цікава было глядзець на людзей ля сцэны, якія былі не зусім “у цеме” – у іх ледзь валасы на галаве не стаялі))

*Паліна:*

Так, шмат хто сыпаў жартачкамі кшталту “больш за ўсіх у Posthumous Blasphemer спадабаўся бубнач”. Але асабіста мяне ўразілі спрытныя пальцы гітарыста гурта Аляксандра Гайдукевіча. Эх, каб мне з такой хуткасьцю пісаць рэпартажы… Пасьля напорыстага тэхна-дэту можна было крыху расслабіцца пад расейскі дум ад Mental Home. Людзей пад сцэнай стала больш, але я не зразумела, ці сапраўды ўсіх прыцягнуў выступ гурта, альбо проста надыходзіў вечар, і людзі нарэшце аклімаліся. Як лічыш?

*Ігар:*

Альбо, нягледзячы на відавочнае спазьненьне, да фэсту прамым навядзеньнем са Льво-




ўскага “Західа” даехалі Дай дарогу!? Прычым, даехалі лічы што ў час. Дзіву даешся канцэртнаму графіку гурта, бо адразу пасьля шоў Юрась Стыльскі, ледзь пасьпеўшы даць жадаючым аўтографы, паляцеў на цягнік. На тварах чытаўся выраз бызвыходнасьці і стомленасьці, але што ў аб’ектывах фанатаў, што на сцэне музыкі трымаліся бадзёра і драйвава. Канцэртная праграма амаль не адрозьнівалася ад таго, што гурт грае апошні год, а гэта лічы адны баявікі. Як табе супер-сэйшн?

*Паліна:*

Палёт нармальны. “П’яныя, патлатыя” ўзьнялі такі пыл, што сапраўды варта было вызываць бранявік і верталёты. Спадабалася, дарэчы, стаўленьне гурта да выступу на метал-фэсьце. Юрась нават спрабаваў гроўліць, а ДД часам нібыта імкнуліся гучаць цяжэй. І другі дзень запар на “нефармаце” народ адрываўся з усіх сіл, ня ў прыклад некаторым “мэтавым” гуртам. Пакуль я адышла, каб прыйсьці ў сябе пасьля зухаватай панкоты, ты, упэўнена, уважліва прасачыў за выступам рэчыцкіх ветэранаў Euthanazia. Падзяліся ўражаньнямі.

*Ігар:*

Супярэчлівыя ўражаньні, шчыра кажучы. Яшчэ дзесяць гадоў таму Euthanazia была топавым гуртом, на які з задавальненьнем глядзеў на гігах. А пасьля рэюніяну нешта пайшло ня так. Нібы і склад амаль класічны, нібы і песьні тыя, што і раней, а неяк ня тое. Вось трэці раз ужо лаўлю сябе на гэтай думцы, і ўсё ніяк не магу адказаць, што менавіта ня так. Народ пёрла (хаця б таму, што гурт з Рэчыцы), а мяне вось не. Мо, трэба было гэты час аддаць тым жа Глэнсам?

*Паліна:*

Можа і так. Бо перад вачыма быў яшчэ адзін прыклад гурта з доўгай гісторыяй, ТТ’34, пад які, пёрла, здаецца, усіх, каго не падкасіла стомленасьць і хто ня зьехаў пад покрывам цемры. Ад бескампраміснай энергіі, што абрынулася на нашыя галовы, людзі былі гатовыя зьнесьці агароджу ля сцэны. Ідэальна пасавала да абстаноўцы фаер-шоў, якое распачалі пад самы знакаміты трэк гурта – “Джек”. А ты трапіў у замес?

*Ігар:*

Патрапіў яшчэ ў Гомелі ў мінулым годзе :) Шкада толькі, што ТТ’34 зараз граюць так мала рэчаў з “Грубого помола”. Але новыя песьні таксама гучалі цікава і былі вытрыманыя строга ў класічным стылі гурта. Чакаем новы альбом, тым больш, што ён ужо амаль гатовы. Гурт, дарэчы, 31 кастрычніка грае ў Менску, таму ўсім жадаючым – калі ласка.

*Паліна:*

Фінальным акордам фэста стаў глыток піўнога фолку ад расейцаў “Тролль гнёт ель”. Годнае заканчэньне годных выходных. Ня ведаю, у які бок будзе рухацца далей лакаматыў пад назвай Metal Crowd, але, спадзяюся, наведаем Рэчыцу праз год?

*Ігар:*

Для сябе дакладна вызначыўся: так! Такія вандроўкі перазагружаюць сьвядомасьць і даюць сілаў на шмат часу наперад, таму ў графіку наступнага лета для Краўда ўжо забраніравана месца. А пакуль застаецца толькі падзякаваць арганізатарам і ўсім тым, хто разам зрабіў гэтае сьвята!

*Ігар Богуш & Паліна Трохаўцава, belmetal.org*

Беларускі музыка кладзе інструменты за пяць тысяч даляраў у машыну за дзве тысячы даляраў і едзе 200 кіламетраў, каб зграць канцэрт за 20 даляраў.

# У Гомелі судзяць бацькоў, якія пакінулі трохмесячную дачку паміраць у замкнёнай кватэры

***Гомельскі абласны суд 18 жніўня пачаў разгляд крымінальнай справы ў дачыненні да жыхароў Гомеля — жанчыны 1983 года нараджэння і мужчыны 1979 года нараджэння. Яны абвінавачваюцца ў забойстве (арт. 139 КК) і пакіданні ў небяспецы (арт. 159 КК) сваіх малалетніх дзяцей.***

У студзені 2015 года ў пад'ездзе дома № 46 па вуліцы Мазурава ў абласным цэнтры быў знойдзены нованароджаны хлопчык.

Міліцыя занялася пошукам яго бацькоў, якія прывялі да страшнай знаходкі: у замкнёнай кватэры мужчыны было знойдзена муміфікаванае цела трохмесячнай дзяўчынкі. Ахвяра праляжала ў кватэры восем месяцаў. Яе кінулі ў маі 2014 года, а цела знайшлі ў студзені 2015-га. Увесь гэты час біялагічныя бацькі Сняжаны, якія пакінулі дзяўчынку паміраць, бадзяліся.

У снежні 2014 года жанчына нарадзіла хлопчыка і падкінула немаўля ў пад'езд жылога дома. Усяго ў жанчыны было пяцёра дзяцей, траіх старэйшых (2002, 2006 і 2007 года нараджэння) выхоўвае бабуля.

Паводле абвінавачання, выстаўленага на папярэднім следстве, бацькі наўмысна пакінулі дачку без нагляду, бо былі ўпэўненыя, што без кармлення і догляду яна памрэ. Замкнуўшы ўваходныя дзверы на замок, абвінавачваныя ў кватэры больш не з`яўляліся. Прызнана, што абвінавачваныя знаходзяцца ў сваім розуме. Прычына смерці трохмесячнай Сняжаны не ўстаноўлена ў сувязі з муміфікацыяй і частковым скелетаваннем, адсутнасцю ўнутраных органаў.

У судзе 18 жніўня была дапытана абвінавачваная, 32-гадовая Віялета.

Яна часткова прызнала віну, растлумачыўшы, што не хацела смерці дачкі, а сышла з кватэры і не вярталася, таму што была п`яная і не разумела, што робіць. Жанчына, паводле яе слоў, спадзявалася, што дзіця будзе плакаць і яго знойдуць. Пакідаючы ў студзені 2015 года ў пад'ездзе дома нованароджанага хлопчыка, абвінавачваная, паводле яе слоў, таксама спадзявалася, што немаўля хто-небудзь знойдзе.

Жанчына на следстве і судзе неаднаразова мяняла паказанні. Пры затрыманні яна сцвярджала, што Сняжану задушыў біялагічны бацька падчас сваркі. Сварыліся сужыцелі з-за грошай: Віялета расказала сябру, што яна са сваёй маці атрымала дапамогу на Сняжану ў суме 23 млн. рублёў. Сужыцель знерваваўся, што гэтыя грошы не даталіся яму, а ён хацеў купіць мабільны тэлефон, і пачаў скандаліць.

Паводле адных паказанняў абвінавачванай, Максім разззлаваўся, што яму не дасталіся грошы, і задушыў дзяўчынку са словамі «Ні сабе, ні людзям», а затым яны замкнулі кватэру і пайшлі бадзяцца. На вочнай стаўцы жанчына змяніла паказанні і заявіла, што сужыцель не забіваў дзіця, яны ўдваіх напіліся і пайшлі гуляць. Потым у кватэру не вярталіся, таму што Віялета «баялася».

На судзе жанчына расказала, што на першым допыце ў студзені 2015 года агаварыла сужыцеля, бо оперупаўнаважаны сказаў ёй, быццам Максім прызнаўся, што задушыў дзяўчынку. Паводле слоў абвінавачванай, оперупаўнаважаны ўдарыў яе па галаве кнігай два разы, таму яна і дала такія паказанні.

Жанчына дае супярэчлівыя паказанні пра акалічнасці і дэталі ўчынення злачынства. Таксама на папярэднім следстве яна не магла растлумачыць прычыны і матывы сваіх учынкаў, казала, што «чорт спакусіў».

Абвінавачваны віну прызнае часткова, сцвярджае, што ён з сяброўкай проста пайшлі з кватэры, калі Сняжана была яшчэ жывая і спала, і намеру пазбаўляць яе жыцця не было.

Мужчына будзе дапытаны ў судовым пасяджэнні 19 жніўня.

Хлопчыка, якога неўзабаве пасля родаў жанчына ў студзені кінула ў пад'ездзе, ужо ўсынавілі.

*Алена Германовіч, БелаПАН*

M&S MEDIA

Неперыядычнае выданне
Інфармацыйна-забаўляльная газета
«Гомельскія Навінкі Жнівень-2 2015»
Уладальнік выдання - M&S Media

Заснавальнік: Гуан Карлас
Галоўны рэдактар: Лявон Грос
Галоўны дызайнер: Аляксей Венецыянаў

246006, г. Гомель, вул. Замаева, 69
Рэдакцыя "Гомельскія Навінкі 2015"

Надрукавана на
папяровай фабрыцы
"ГумНо", г. Клінцы,
вул. Мажаеўская, 17б.




Тыраж: 250 асобнікаў.
Распаўсюджваецца безкаштоўна.

Мы ў сацыяльных сетках:
***vk.com:*** gnavinkicom
***facebook.com:*** spravavodstva

Наш ***e-mail:*** gnavinki@gmail.com

M&S MEDIA